# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 12 (187)
снежань 2017

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"



## У НУМАРЫ:




### Віншуем з Калядамі і Новым годам!

Дарагія сябры! Сардэчна віншуем вас з Калядамі і Новым годам!

Няхай надыходзячы год стане годам вашых асабістых дасягненняў, годам здзяйснення ўсіх задуманых добрых спраў, годам радасці для вас і вашых блізкіх! Няхай вас заўжды саграюць цяплом родныя і сябры, а ў вашай хаце заўжды будзе ўтульна.

Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, нязгаснага імпэту, мужнасці, моцы і натхнення для новых поспехаў у нашай агульнай працы на карысць роднай Беларусі!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**




## Ніна Шыдлоўская: ПРА ПАТРЫЯТЫЗМ, ФЕМІНІЗМ І КАХАННЕ

Ніна Шыдлоўская была адзначаная сярод людзей года "Нашай Нівы", найлепшай кандыдатуры для "Асобы года" "Ніны" таксама няма. Старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына", каардынатарка кампаніі "Будзьма беларусамі!" Ніна Шыдлоўская да гэтага часу не давала доўгіх інтэрв'ю. Кажа, што больш любіць слухаць, чым нешта распавядаць. СМІ нямала пісалі пра незаконна затрыманых па "справе патрыётаў" і вызваленых на гэты момант хлопцаў. Прыйшоў час падрабязна расказаць пра гераіню, дзякуючы якой у тым ліку гэта стала магчымым.

Чытайце вялікую гутарку на старонцы 4.

**навіны**

## КАЛЕНДАРЫ АД "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!" І "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

Каляндар "Не маўчы па-беларуску – 2018" можна набыць у наступных крамах:

**У Мінску:**
- "Акадэмкніга", пр-т Незалежнасці, 72;
- "Кнігарня пісьменніка", вул. Казлова, 2;
- "Веды", вул. К.Маркса, 36;
- "Цэнтральная кнігарня", пр-т Незалежнасці, 19;
- "Кнігі&кніжачкі", пр-т Незалежнасці, 14;
- "Эўрыка", вул. Куйбышава, 75;
- "Рагна", вул. Сухая, 4 / вул. Караля, 22;
- "Светач", пр-т Пераможцаў, 11;
- "Галіяфы", вул. Няміга 3, павільён 66;
- ІП Алесь Дудар;
- "Мой модны кут", пр-т Незалежнасці, 58, пав.333;
- "Рыжы кот", вул. Сурганава, 50, пав. 72;
- У інтэрнэт-крамах hareza.by, imbryk.by, knihi.by, sunduchok-knig.by і symbal.by (дастаўка па ўсім свеце).

**Бабруйск:** "Крыніца ведаў", вул. М. Горкага, 31.
**Брэст:** Крама "Князь Вітаўт", вул. Савецкая, 55.
**Віцебск:** Кнігарня "Светач", вул. Кірава, 10.
**Гародня:**
- "Цудоўня" (вул. Вялікая Траецкая, 16),
- "Бэбі Бук" (ГД "Нёман", 2 пав., вул. Савецкая, 18).

**Магілёў:** "Маліндзі бай", вул.Яцына, д.5, оф. 3.

У Берасці, Гародні, Гомелі, Віцебску, Пінску, Полацку, Наваполацку, Лідзе, Барысаве, Маладзечна – у кнігарнях ААТ "Белкніга".

Каляндар "Адрасы БНР. 1918–2018" можна набыць у кнігарні "Акадэмкніга" (Мінск, пр-т Незалежнасці, 72); "Князь Вітаўт" (Брэст, вул. Савецкая, 55 і Віцебск, вул. Фрунзэ, 8), "Цудоўня" (Гродна, вул. Вялікая Траецкая, 14).

У інтэрнэце: knihi.by і imbryk.by.






навіны

# "МАЛЫ ЮБІЛЕЙ – XX БЯЗМЕЖЖА"

"Малы юбілей – XX Бязмежжа". Пад такой назвай на Падляшшы прайшоў літаратурны семінар, арганізаваны праграмнай радай тыднёвіка "Ніва" і Беларускім саюзам у Польшчы.

Ужо дваццаць гадоў менавіта тут, у Белавежскай пушчы, пісьменнікі з абодвух бакоў мяжы размаўляюць пра беларускую літаратуру. Першы дзень семінара быў прысвечаны тым, каго сёння няма побач з намі, а таксама размовам пра 15-годдзе "Дзеяслова", дзейнасці Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", новым выданням Саюза беларускіх пісьменнікаў і літаратуразнаўству.



Сваё месца на літаратурным семінары знайшлі і маладыя пісьменнікі. Таксама прайшлі аўтарскія сустрэчы з Віталём Рыжковым, Усеваладам Сцебуракам ды Змітром Бартосікам.

XX літаратурны семінар "Бязмежжа" завяршыўся конкурсам "Дэбют", зладжаным Тыднёвікам беларусаў у Польшчы "Ніва".

Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"

# ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ БУДЗЕ ЗАЙМАЦЦА СПРАВАМІ БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА

У Палаце прадстаўнікоў з'явіцца працоўная група, якая будзе займацца пытаннямі беларусаў замежжа.

Узначаліць яе старшыня камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Ігар Марзалюк. Займацца справамі беларусаў замежжа будуць таксама Вольга Папко, Валянціна Ражанец і старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім. У 2014 годзе Палата прадстаўнікоў прыняла закон "Аб беларусах замежжа", які рэгламентуе парадак аднясення да беларусаў замежжа і меры дзяржаўнай падтрымкі для іх.

"Радыё Свабода" паводле БелаПАН

# У МІНСКУ ПРАЙШОЎ КРУГЛЫ СТОЛ, ПРЫСВЕЧАНЫ СТАГОДДЗЮ УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА

17 снежня ў Мінску ў культурніцкай прасторы "Тартак" прайшоў круглы стол, прысвечаны юбілею Першага Усебеларускага з'езда, які меў назву "100 гадоў гонару, годнасці, права і адроджанай дзяржаўнасці".

Удзел у круглым стале бралі гісторыкі, прадстаўнікі грамадскасці, палітычных і культурніцкіх арганізацый. Круглы стол стаўся своеасаблівым падсумаваннем гадавой працы аргкамітэта па святкаванні гэтай падзеі, створанага ў 2016 годзе.

Старшыня аргкамітэта, сябра Беларускага саюза мастакоў Мікола Купава адкрыў пасяджэнне, распавёўшы прысутным пра гістарычнае значэнне гэтай падзеі. Кандыдат гістарычных навук Тацяна Працька ў сваім дакладзе распавяла пра грамадска-палітычную і культурніцкую сітуацыю напярэдадні Усебеларускага з'езда. Пра кансалідацыю беларускай нацыі перад рэаліямі знешніх пагрозаў апавёў гісторык Станіслаў Рудовіч, які нядаўна ў суаўтарстве з намеснікам старшыні Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Валерам Герасімавым выдаў кнігу "Іх звала Беларусь святая" з падрабязным храналагічным аналізам падзеяў З'езда і выявамі дакументаў. Краязнаўца Леанід Акаловіч прааналізаваў сацыяльны склад удзельнікаў З'езда і зрабіў выснову, што з'езд не быў "сялянскім", хаця сялянаў сапраўды была бальшыня – удзел у ім бралі і рабочыя, і інтэлігенцыя, і асобныя магнаты. З'езд быў дэмакратычны, сярод дэлегатаў былі прадстаўнікоў усіх тагачасных палітычных плыняў. Нягледзячы на тое, што Заходняя Беларусь была акупаваная немцамі, З'ездзе былі і бежанцы з акупаваных тэрыторый.

Да таго як З'езд быў разагнаны бальшавікамі, дэлегаты паспелі зацвердзіць толькі адзін пункт – аб неабходнасці ўсталявання "дэмакратычнага рэспубліканскага строю" ў межах беларускай зямлі.

У заключным выступе Мікола Купава расказваў пра мастакоў, музыкаў і іншых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, якія прынялі ўдзел у З'ездзе, а таксама пра арганізацыю беларускага школьніцтва ў краіне.

Па выніках дыскусіі пры канцы працы круглага стала была прынятая ўхвала з патрабаваннем да гарадскіх уладаў Мінску належным чынам увекавечыць працу З'езда мемарыяльнай дошкай на будынку Беларускага тэатра імя Янкі Купалы, адначасова ўсталяваць мемарыяльную дошку на былым губернатарскім доме на плошчы Свабоды, дзе было абвешчанае стварэнне БНР прыняццем II Устаўной граматы, а таксама ўсталяваць мемарыяльную дошку на будынку №9 па вуліцы Валадарскага (дзе 25 сакавіка 1918 года прыняццем III Устаўной граматы была абвешчана поўная незалежнасць БНР), і самой вуліцы Валадарскага прысвоіць імя Івана і Антона Луцкевічаў.

Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

5 снежня 1917 г. – у Мінску пачаўся першы Усебеларускі з'езд (кангрэс). З'езд абвясціў права беларускага народа на самавызначэнне і ўсталяванне дэмакратычнага рэспубліканскага ладу.

19 лютага 1918 г. – бел-чырвона-белы сцяг узняты над будынкам губернатарскага палаца ў Мінску пасля выгнання з горада бальшавікоў.

21 лютага 1918 г. – Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага 'езда звярнуўся да народа Беларусі з І Устаўной граматай, у якой абвясціў сябе ўладаю ў Беларусі. Розніца быў на тое, што германскаму камандаванню, якое хутка павінна было прыйсці ў Мінск, прыйдзецца прыняць як дадзенае беларускае дзяржаўнае ўтварэнне.

9 сакавіка 1918 г. – на ўрачыстым пасяджэнні Выканаўчага камітэта Рады з'езда была прынята II Устаўная грамата. У ёй Беларусь была аб'яўлена народнай рэспублікай. У межах Беларусі былі абвешчаны свабоды слова, друку, сходаў, забастовак, сумлення, недатыкальнасць асобы і жылля, права на аўтаномію, раўнапраўе моў усіх нацыянальнасцей Беларусі. 18 сакавіка 1918 г. Рада Усебеларускага з'езда пераўтворана ў Раду БНР.

25 сакавіка 1918 г. – Рада БНР у Мінску прыняла III Устаўную грамату, у якой Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася вольнай, незалежнай дзяржавай.




# "ДЗЁННІКІ І ЗАПІСЫ" РЫГОРА БАРАДУЛІНА. ВЫПУСК 4

Кніжная серыя "Бібліятэка Бацькаўшчыны: Людзі Беларусі" папоўнілася чарговым томам дзённікаў і запісаў Рыгора Барадуліна. У кнігу ўвайшлі нататкі, якія народны паэт Беларусі рабіў з 1983 па 1988 гады.

Гэты перыяд жыцця дзядзькі Рыгора быў надзвычай насычаны вандроўкамі – Францыя, Польшча, Балгарыя, Індыя, Непал, удзел у XXXIX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у складзе дэлегацыі з БССР у ЗША... Занатаваныя размовы з Піменам Панчанкам, Анатолем Вялюгіным і Артурам Вольскім, адказы на пытанні падчас сустрэчаў з чытачамі, сумесны з Міхасём Стральцовым план няспраўджанай "Кнігі дружбы" і ўражанні ад вандровак па рэспубліках Савецкага Саюза і Беларусі, а таксама не друкаваныя раней вершы чакаюць усіх цікаўных на старонках гэтай кнігі. Працяг будзе!

Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

навіны

# ЯНКА ЗАПРУДНІК ВЫДАЎ НОВУЮ КНІГУ

Аўтар пачаў свой выступ з перадгісторыі яе з'яўлення. Сабраць раскіданыя па розных старых эміграцкіх выданнях вершы яго доўгі час намаўлялі сябры.

Калі ж ён пачаў пераглядаць свой архіў, то знайшоў рукапісны дзённік часу навучання ў Лювэнскім універсітэце. Сам быў уражаны. Цяпер вершы розных гадоў (Янка Запруднік пачаў пісаць у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне), дзённік лювенскага студэнта ды некаторыя іншыя тэксты сабраныя пад адной вокладкай.

Можна сказаць, што гэтай кнігай завяршылася трылогія Янкі Запрудніка пра штодзённае жыццё ды духоўнае ўзрастанне беларускай моладзі, якая ў паваенны час апынулася на Захадзе і зрабіла мэтаю жыцця "паставіць Беларусь на мапу свету". (Першай была "Дванаццатка", затым – "Па гарачых слядах мінуўшчыны. Мае лісты 1952–1959 гг.")



Выступы аўтара кнігі ды Валянціны Трыгубовіч, яе рэдактара, суправаджаліся паказам на вялікім экране фотаздымкаў з сямейных архіваў Янкі Запрудніка, яго малодшага брата Аркадзя Вільчыцкага, які жыве ў Беларусі, ды з фондаў Беларускай фундацыі Крачэўскага.

Гучала музыка таго часу: беларускія студэнты ў Лювене мелі свой хор, салістаў, музыкаў, яны выступалі з канцэртамі беларускай музыкі ў Бэльгіі, Францыі, Нямеччыне, Вялікабрытаніі. А кіравалі маладымі талентамі славутыя кампазытары Мікола Равенскі, Алесь Карповіч.

На шчасце, тады былі зроблены студыйныя запісы ды выдадзеныя кружэлкі. У ліку іншых на прэзентацыі прагучала песня А. Карповіча "Каханая, не плач па шчасці", словы якой напісаў Янка Запруднік (Сяргей Ясень). Вокладку кнігі намалявала вядомая ў эміграцыі мастачка Ірына Рагалевіч-Дутко, пляменніца Надзеі Запруднік, жонкі спадара Янкі.



На завяршэнне імпрэзы спадарыня Валянціна Трыгубовіч прачытала верш, прысвечаны ў далёкім ужо 1952 годзе любімаму і шанаванаму студэнтамі апекуну лювенскіх беларусаў а. Робэрту ван Каўлярту. Сёння ўся маладая плынь беларускіх змагароў можа адрасаваць гэтыя словы й яго аўтару – Янку Запрудніку.

Выступ Таццяны Дзямешчык з Саўт-Рывера сарваў агульныя воплескі прысутных: усе разам праспявалі "Многая лета" больш як 90-гадоваму аўтару новай кнігі.

**Валянціна Трыгубовіч, "Наша Ніва"**

# "RZECZPOSPOLITA" ЎЗНАГАРОДЗІЛА ПРЭМІЯЙ ГЕДРОЙЦЯ МАСТАКА-БЕЛАРУСА ЛЁНІКА ТАРАСЕВІЧА

Журы Прэміі імя Ежы Гедройця прысудзіла сёлета дзве раўназначныя прэміі. Першы лаўрэат – Лявон (Лёнік) Тарасевіч, мастак, прафесар выяўленчага мастацтва, які на працягу многіх гадоў удзельнічаў у будаўніцтве прыязных адносін паміж Польшчай і Беларуссю, паведамляе "Rzeczpospolita".

Лёнік Тарасевіч быў узнагароджаны "За нястомную працу на агульнае дабро, за культываванне памяці пра гісторыю Вялікага княства Літоўскага, вялікі ўклад у прасоўванне Польшчы ў свеце як дзяржавы многіх народаў, культур і рэлігій".

Другі з лаўрэатаў – Анджэй Суліма Каміньскі – гісторык, прафесар Каталіцкага універсітэта Джорджтаўн у Вашынгтоне, які прапагандуе веды пра грамадзянскую супольнасць многіх народаў, што ўваходзілі ў склад Першай Рэчы Паспалітай




да яе падзелаў трыма суседнімі імперыямі.

Ён атрымаў узнагароду "За імпульс і эфектыўнасць праекту "Аднаўленне забытай гісторыі", рэалізаванага ў духу Гедройця. Адмысловым дыпломам былі адзначаныя намаганні Чарльза Э. Мерыла-малодшага – амерыканскага пісьменніка, выкладчыка, але перш за ўсё філантропа, які падтрымліваў культурныя і адукацыйныя ініцыятывы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, у асноўным у Польшчы, на працягу многіх гадоў.

Мерыл быў уганараваны гэтай узнагародаю імя Ежы Гедройця "за агульную дзейнасць на карысць краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, – сказаў Багуслаў Хработа, галоўны рэдактар газеты "Rzeczpospolita" і старшыня Камітэту па прысуджэнні прэміі.

Ежы Гедройць – народжаны ў Мінску польскі публіцыст, палітык, заснавальнік і рэдактар парыжскага грамадска-палітычнага часопіса "Kultura". Яшчэ ў часы СССР прытрымліваўся думкі, што для стабільнасці нашага кантынента патрэбнае існаванне незалежных Беларусі, Украіны і краін Балтыі. Прэмія ягонага імя ўручаецца з 2001 года.

**"Наша Ніва" паводле "Rzeczpospolita"**

# ЧАСОПІСУ "КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ" СПОЎНІЛАСЯ 5 ГАДОЎ. ВЫЙШАЎ 20-ТЫ НУМАР

Дарагія чытачы!

Рэдакцыя часопіса "Культура. Нацыя" шчыра віншуе Вас з Калядамі і Новым годам! Зычым Вам і Вашым сем'ям шчасця, здароўя, дабрабыту, цудоўнага настрою! Няхай гэты год будзе удачлівым, спакойным і дастойным!

Нашаму часопісу споўнілася 5 гадоў. Так, ён быў заснаваны ў снежні 2012 года і ад таго часу выходзіў рэгулярна, кожныя тры месяцы, 4 нумары на год. Цяпер вы трымаеце ў руках 20-ты нумар часопіса. За пяць гадоў на старонках часопіса друкаваліся арыгінальныя матэрыялы 29 аўтараў. Усяго апублікавана 119 арыгінальных артыкулаў. Агульны аб'ём часопіса склаў каля 1400 старонак, г. зн. у сярэднім кожны нумар выходзіў на 70 старонках.

Часопіс "Культура. Нацыя" змяшчаецца на нашым сайце www.sakavik.net , на якім мы дадаткова за пяць гадоў размясцілі 936 матэрыялаў з іншых сайтаў, часопісаў і газет. У наш высокаінфармацыйны век можна знайсці даволі шмат беларускамоўных сайтаў. Тым не менш, падаецца, што мы таксама знаходзім сваю аўдыторыю. За пяць гадоў наш сайт і часопіс




наведалі больш чым 16.600 чытачоў (з больш чым 30.700 праглядамі). Мы з гонарам можам сказаць – большасць чытачоў паходзяць з Беларусі (56.2%).

**З павагай, рэдакцыя часопіса**

гутарка

Працяг са старонкі 1

# Ніна Шыдлоўская: пра патрыятызм,




**“Ніна”: Вас было цяжка вылавіць для інтэрв’ю, часта бываеце ў раз’ездах?**

**Ніна Шыдлоўская:** Па працы пастаянна езджу ў камандзіроўкі. Нядаўна вось вярнулася са Стакгольма. А выключна для сябе павандраваць атрымліваецца рэдка: апошні раз летам на пяць дзён вырвалася ў Польшчу. Даўно марыла паехаць менавіта на машыне, каб не госцем сябе адчуваць, а паглядзець краіну. Я атрымала правы гадоў 10 таму і вельмі люблю кіраваць машынай. Пакуль я за стырном, можна лічыць, што ў мяне ўсё добра. Машына не робіць чалавека свабодным, але быць вольным у перамяшчэнні – гэта ўжо вялікая справа.

**“Н”: Ёсць такія краіны, якія запалі ў душу асабліва?**

**НШ:** У свой час я дастаткова паездзіла па Еўропе і Амерыцы – цікавых краін вельмі шмат. Па атмасферы, па самаадчуванні ў прасторы мне падабаюцца Швецыя і Канада. А яшчэ Заходняя Нямеччына, дзе я праходзіла навучанне ў цэнтры імя Джорджа Маршала. Баварыя стала для мяне адкрыццём і ў плане адносін з людзьмі, і ў плане краявідаў.

**“Н”: З усімі праектамі і грамадскімі справамі ў вас застаецца час на сябе?**

**НШ:** Ёсць відавочны перакос у грамадска-працоўную сферу. У культуры няма паняцця, што адпрацаваў з васьмі да пяці – і вольны. Усялякія імпрэзы ўвогуле пераважна ўвечары адбываюцца. Сваімі справамі атрымліваецца займацца спарадычнымі наскокамі. Вельмі шкадую, што не хапае часу на сістэмную адукацыю, бо калі вяртаешся дамоў, сіл, бывае, ні на што не стае. Я ўсё жыццё вучуся асертыўнасці. Калі бачу, што камусьці патрэбная дапамога, мне ўласціва адразу кідацца і дапамагаць. У пэўны момант я пачала разумець, што такія паводзіны замінаюць і прафесійнаму, і асабістаму. Цяпер у мяне надышоў перыяд роздуму над тым, чаго б мне хацелася ўласна для сябе. З іншага боку, мне вельмі пашанцавала. Я магу займацца тым, чым хацела: магу спалучаць грамадскае з прафесійным. Куды складаней тым людзям, якія імкнуцца праяўляць сацыяльную актыўнасць, але пры гэтым ім прыходзіцца працаваць на заводзе, напрыклад.

**“Н”: Вы стамляецеся ад людзей?**

**НШ:** Мне камфортна і адной, але ўсё ж камунікацыя з людзьмі – гэта самае дарагое, што ў мяне ёсць. Таму не, не стамляюся. Пасля навучання ў Нямеччыне мне прапаноўвалі там застацца. Гэта быў пачатак 2000-х, у Беларусі ішло моцнае палітычнае супрацьстаянне, і нават некаторыя сябры раілі мне з’ехаць. Калі б можна было забраць з сабой важных мне людзей, я б, можа, і змагла перасяліцца. Але без іх – не.

**“Н”: Наколькі вы залежыце ад сацсетак, смартфона? Даводзіцца браць тэлефон з сабой у прыбіральню, каб “быць на сувязі”?**

**НШ:** Так, часам прыходзіцца і браць. Інтэрнэт у першую чаргу важны для мяне як крыніца інфармацыі. Там я чытаю асноўныя навіны. А той жа фэйсбук – гэта яшчэ і выдатная інтэлектуальная крыніца. Калісьці я зарэгістравалася ў аднакласніках: хацела знайсці былых знаёмых з Барысаўскай сярэдняй школы, у якой я адвучылася два гады. Але цяпер нават і не згадаю пароля. Ёсць я і ў інстаграме, але анлайн-камунікацыя для мяне хутчэй прынагодная. Не каб дэманстраваць “я папіла кавы – паглядзіце, які ў мяне прыгожы кубак”, а дзяліцца тым, што мне хацелася б сказаць жыўцом, на публіку. Вось прыклад: калі ішлі ўкраінскія пратэсты, я ехала да сябе на вёску і ўбачыла ўказальнік з назвай Майдан. Сфатаграфавала і выклала ў інстаграм. Абмінуць такое было цяжка. Увогуле, я не прыхільніца жыцця ў рэжыме анлайн. Я лічу гэта перакосам сённяшняга часу і спадзяюся, што чалавецтва ўраўнаважыцца і будзе знаходзіцца недзе пасярод анлайну і афлайну. Бо відавочна, што ледзь не цэлае пакаленне сёння не ўмее размаўляць у жывую.

**“Н”: Школу вы заканчвалі ў Барысаве, але ж родам не адтуль?**

**НШ:** Я з вёскі Баканава, што знаходзіцца на стыку трох абласцей, але належыць да Магілёўшчыны. Там я адвучылася 8 класаў, а дыплом аб сканчэнні сярэдняй адукацыі атрымала ў Барысаве – гэта для мяне стрыечны горад, можна сказаць. Баканава – вёска маіх продкаў. Бацька быў трактарыстам, спрабаваў сябе ў ролі брыгадзіра, але за любоў абараняць падначаленых перад вышэйшым кіраўніцтвам доўга на гэтай пасадзе не затрымаўся. Маці шмат год працавала закройшчыцай мужчынскай вопраткі, апошнія гады была загадчыцай мясцовай бензакалонкі. Калі мы з сястрой пахавалі бацькоў, іх хату вырашалі прадаць: балюча было б глядзець, як яна разбураецца без гаспадара. У сястры ў вёсцы ёсць свая хата. Сястра працуе дырэктарам мясцовага дома культуры – і гэта сапраўды яе, яна знайшла ў гэтым прызванне.

**“Н”: Цікава, што і вы, і ваша сястра звязаныя з культурай. Адкуль гэта ў вашай сям’і?**

**НШ:** Ведаеце, калі выхоўваешся ў атмасферы распаведаў пра мінулае, гэта ўзнікае само па сабе, відаць. Мая маці цудоўна спявала, дзякуючы ёй у нас заўсёды была процьма кніг. Нават у савецкія дэфіцытныя часы, не ведаю якім чынам, але яна даставала розную літаратуру. У дзяцінстве мая вёска была беларускамоўнай (гэта цяпер на радзіме ўжо шмат прымесяў рускай мовы). Пасля школы гэтае сваё, роднае мне хацелася несці і далей, але на больш прафесійным узроўні. Праўда, да апошняга моманту ў мяне стаяў выбар: ці факультэт прыкладной матэматыкі, ці філалагічны. Я абрала апошняе і паступіла на беларускае аддзяленне. Хаця, думаю, калі б падалася ў матэматыку, істотна нічога б не змянілася. Можа, беларускай мовы ў гэтай сферы стала б больш. Наўрад ці я б пісала свае працы на рускай.

**“Н”: Падчас навучання вы пайшлі працаваць у Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю, былі абраныя кіраўніком яе спраў. Вы б маглі зрабіць кар’еру ў палітычнай сферы, чаму сышлі з гэтага шляху?**

**НШ:** Падчас майго навучання ў Нямеччыне ў мяне была магчымасць паразважаць і падумаць над будучыняй. У той момант я вырашыла для сябе, што не хачу і не змагу рэалізоўвацца ў палітыцы. Ёсць прынцыповыя моманты і рысы характару, якія я не гатовая ў сабе ламаць. Я ніколі не змагу пераступіць праз інтарэсы блізкіх мне людзей, сяброў і паплечнікаў. А ў канцы 1990-х і пачатку нулявых я бачыла, што дзеля таго, каб выбіцца ў палітычныя лідары, вельмі часта прыходзілася гэтым ахвяраваць. Прыйшоўшы на працу ў Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”, я зразумела, што гэта маё, мне гэта цікава. Гэта было спалучэннем пэўных палітычных момантаў (напрыклад, нашы крокі і дзеянні ў межах арганізацыі наладжвалі камунікацыю паміж супольнасцямі і дзяржаўнымі ўстановамі). Апроч таго, нам удалося развярнуць важную культурніцкую кампанію “Будзьма беларусамі!”. На мой погляд, культура – гэта тое, што дае грунт. Я да гэтага часу перакананая, што калі б паралельна з тымі палітычнымі працэсамі, якія ішлі ў пачатку 2000-х, усе мы былі арыентаваныя не толькі на кароткачасовыя задачы (правесці пікет ці акцыю), а яшчэ б паралельна надавалі ўвагу працы з чалавечай свядомасцю, мы б сёння жылі ў іншай сітуацыі. Як прыгожа зверху не масці, калі пад нагамі багна – яна ўсё роўна засмокча. Пад-

# ФЕМІНІЗМ І КАХАННЕ

муркам, які б змацоўваў людзей, мусіць быць наша культура: мова, гісторыя, традыцыі. Гэта тое, што пасля распаду СССР магло б раскрыць людзям вочы і дало б зразумець, што мы абсалютна самастойная краіна. Бо да гэтага часу 30% насельніцтва так не лічыць. І вялікая бяда, таму што гэтыя 30% выхоўваюць новае пакаленне. Мы звяртаемся да людзей менавіта праз культурніцкую дзейнасць, таму што яна больш пазітыўная і не выклікае пачуцця страху, як грамадская ці палітычная. Праз мастацкія сродкі мы спрабуем дагрукацца да розуму, сэрцаў людзей. Каб яны думалі, дзе мы жывём, чаго хочам, каб у краіне адбываліся пэўныя змены.

**"Н": Слухайце, але ж усё роўна тыя ж праекты "Будзьмы" цікавяць пэўнае кола людзей. Думаеце, магчыма дагрукацца да тых, хто па-за межамі "тусоўкі", фэйсбука?**

**НШ:** Ідэальны варыянт для нашага грамадства быў бы, калі б усё ішло зверху. Псіхалогія беларусаў такая, што яны бяруцца рабіць многія рэчы толькі пасля ўказанняў. Пакуль жа ім трэба хаця б даваць альтэрнатыўную інфармацыю, каб яны разумелі, што ёсць над чым падумаць. Гэта, канечне, праца больш доўгачасовая, чым калі б яна ішла праз дзяржаўныя ўстановы. Але калі мы не будзем рабіць нейкія рэчы самі, мы ўвогуле можам страціць краіну. Яна будзе юрыдычна незалежнай тэрыторыяй, але самастойнай – не. І добра, калі не сыдзе ў расійскую інфармацыйную прастору цалкам.

**"Н": Наконт палітычнай дзейнасці. Вы не выключаеце, што пры пэўных абставінах, з сённяшнім досведам, маглі б да яе вярнуцца?**

**НШ:** Ніколі не трэба заракацца, ніхто не ведае, што будзе далей. Хто мог у пачатку сакавіка падумаць, што можа здарыцца гэтая абсурдная сітуацыя з "Белым легіёнам"? Што некалькі месяцаў жыцця хлопцаў і майго асабіста будзе згублена праз змаганне з сістэмай. Я ўдзельнічала ў некалькіх выбарчых кампаніях: і на ўзроўні парламенцкіх, і на ўзроўні прэзідэнцкіх выбараў. Была прэс-сакратаркай падчас выбарчай кампаніі Аляксандра Казуліна. Тады я не магла адмовіць ім у прадстаўленні сваіх кампетэнцый. Пры сённяшніх умовах, калі тых жа дэпутатаў не абіраюць, а прызначаюць, я б не хацела мець дачыненне да палітыкі. Але што будзе заўтра – хто яго ведае.

**"Н": Калі працягваць тэму патрыётаў. Навошта вы ўвязаліся ў гэтую справу? Ці адыграла тут ролю асабістае? Тое, што адзін з затрыманых Міраслаў Лазоўскі раней быў вашым мужам, з якім вы працягваеце падтрымліваць цёплыя адносіны?**

**НШ:** У мяне не было выбару. Як толькі пайшлі першыя арышты, я прыблізна ўяўляла, у што гэта можа закруціцца. Як правіла, у крытычных сітуацыях я рэагую вельмі хутка. Я разумела, што дапамагаць хлопцам будуць сваякі, праваабаронцы, але вельмі "вузка". Паасобку мы б не дагрукаліся ні да грамадскасці, ні да дзяржаўных структур. Было відавочна: у ход пайшла абсалютна абсурдная схема, у якую простых людзей склалі, як у картачную калоду. Мы ўжо праходзілі гэта з Міраславам, калі пасля выбуху на Дзень незалежнасці ў 2008 годзе была спроба павесіць усё гэта на яго. У мяне занадта багаты досвед, які дапамагае разумець хай і абсурдную, але пэўную логіку нашых сілавых структур. Я ведала большасць затрыманых хлопцаў і прыблізна ўяўляла, што рабіць і дзеля чаго, таму не рэагаваць не магла.

**"Н": На сёння для вас гэтая справа скончылася?**

**НШ:** На вялікі жаль, яна не закрытая. З аднаго боку, такая схема можа паўтарыцца з кожным беларусам. З любым, хто будзе хаця б па нейкіх фармальных прыкметах падпадаць пад пэўную палітычную схему. Падругое, пракуратура яшчэ не вынесла канчатковае рашэнне – апошняя кропка не пастаўленая. Не перастае ўсё гэта быць актуальным і на ўзроўні свядомасці. Дзякуй богу, што не ў такой вострай фазе, як раней. Патрэцяе, асабіста я ад пачуцця трывогі не адышла. Яно звязанае і з гэтай сітуацыяй, і агулам пераследуе мяне пасля Плошчы 2010 года. Тады ў нашай краіне парушыліся межы логікі, па якіх раней можна было пралічыць: я раблю гэты крок і, значыць, мяне чакае тое. Цяпер межы сцёртыя.

**"Н": Вам калі-небудзь пагражалі?**

**НШ:** Пагрозы былі. Хапала і рызык для жыцця. Сёння я не адчуваю сябе ў небяспецы. У такой сітуацыі ратуюць блізкія людзі, сябры. Іх клопат пра мяне, як і мой клопат пра іх, для мяне як аўтападзарадка.

**"Н": Задам, мабыць, асабістае пытанне. Для многіх звонку глядзелася дзіўна, як вы, будучы былой жонкай Міраслава Лазоўскага, працягвалі з ім цёпла камунікаваць, перапісвацца. Не было рэўнасці з боку яго нявесты, ужо жонкі Святланы?**

**НШ:** Раўнавала яна ці не – гэтага я дакладна не ведаю. На нашай камунікацыі гэта ніякім чынам не адбілася. Калі я толькі сустрэла Міраслава, то адчула, што гэта вельмі блізкая для мяне душа. Мы былі быццам з адной казкі. І калі ў нас не склалася як у мужа і жонкі, мы зразумелі, што, калі адсунем усе крыўды, то захаваем куды больш важную рэч: партнёрства і душэўную блізкасць. І ўсё наваколле, хоча яно таго ці не, мусіць змірыцца з тым, што мы ёсць у жыцці адно аднаго. Я вельмі радая за яго і Свету: нават у ЗАГС на роспіс іх адвозіла.

**"Н": У адным каментары СМІ вы сказалі, што каханне і сяброўства – гэта для вас самае важнае ў жыцці. Але што гэта для вас, наколькі тут пра пачуцці?**

**НШ:** Мне здаецца, што ў мяне з'явіліся розныя ўзроўні сяброўства: больш і менш блізкія. Тут вельмі шырокі дыяпазон. Што я зразумела дакладна: нельга патрабаваць ад людзей больш, чым яны могуць даць. Тады сяброўства захаваецца. Каханне – больш складаная рэч. Для мяне важна, каб каханне ўключала душэўнасць, фізічнае прыцягненне і партнёрскае стаўленне адно да аднаго. Калі гэта ёсць, то пачуццё вельмі сур'ёзнае і глыбокае. Цяпер, я спадзяюся, у мяне гэта ёсць.

**"Н": То бок ваша сэрца не вольнае?**

**НШ:** Так, я сустракаюся досыць працяглы час з адным чалавекам. Але я не хачу выносіць асабістае жыццё на шырокі агляд. Каму трэба, яны ведаюць падрабязнасці ці яшчэ даведаюцца. А ўсяму свету пра гэта казаць неабавязкова.

**"Н": Што для вас значыць выраз "рэалізавацца як жанчына"? Наколькі тут пра кар'еру, а наколькі пра дзяцей і сям'ю?**

**НШ:** Для мяне самарэалізацыя – адчуваць сябе гарманічнай і глыбока ўнутры быць перакананай, што тое, чым я займаюся, дае душэўны рост. Для мяне важна мець добрых сяброў. Быць патрэбнай не з прагматычнага, а з эмацыйнага пункту гледжання. Аддаваць і атрымліваць эмоцыі ў каханні. Да пытання дзяцей я стаўлюся па-філасофску: калі іх да гэтага часу няма – значыць, так трэба. Я праз гэта і не пакутую, і не радуюся гэтаму. Так ёсць. Я збіраюся жыць, працаваць, кахаць, прыносіць карысць людзям. А замужжа, пячатка ў пашпарце – гэта неістотнае, другаснае.

**"Н": Калі мы загаварылі пра сям'ю, то згадаю, што словам года ў ЗША прызналі "фемінізм". Наколькі для вас блізкія яго ідэі? Як вы ставіцеся да традыцыйнага размеркавання сямейных абавязкаў?**

**НШ:** Мне падаецца, што за апошні час само паняцце фемінізму трохі сказілася. У гэтай плыні шмат агрэсіі. А я баюся любых крайнасцяў. Роўныя магчымасці, памкненне рэалізоўвацца ў прафесійнай сферы без штампавых стэрэатыпаў... З гадамі я зразумела: тое, што мне блізка, аказваецца, фемінізм. Ну, значыць я феміністка. Мне б хацелася, каб у нашым грамадстве прыйшло разуменне таго, што мужчыны і жанчыны – гэта першнаперш асобы, якія маюць права самастойна вызначаць свой лад жыцця. Калі мужчыне падабаецца займацца домам – хай ён гэта робіць без ганьбавання з боку блізкіх і грамадства. Але гэта мусіць быць выбар самой асобы. Што тычыцца сямейных абавязкаў, то тут партнёры павінны банальна дамовіцца. Права асобы выбіраць сабе занятак – такое ж натуральнае, як права працаваць ці не, мець магчымасць аднаполага кахання... Я хачу, каб наша грамадства прыйшло да разумення гэтых рэчаў натуральна, не праз нейкія "птушачкі", прапісаныя заканадаўствам. Спадзяюся, хаця б з гэтымі працэсамі будзе лягчэй, чым з фармаваннем нацыянальнай ідэнтычнасці.

**"Н": Наконт нацыянальнай ідэнтычнасці. У 2010 годзе на чарговым З'ездзе беларусаў свету ў сваім дакладзе "Імідж Беларусі. Роля беларусаў замежжа ў фармаванні іміджу краіны" вы казалі пра слабую нацыянальную ідэнтычнасць беларусаў. Мы цяпер абмяркоўваем толькі сумнае з гэтай нагоды, але ж ёсць і пазітыўныя зрухі?**

**НШ:** Параўноўваць ёсць з чым. Калі я толькі пераехала вучыцца ў Мінск, памятаю, якой была рэакцыя на беларускую мову: на вуліцы ці ў транспарце я магла выслухаць не адну абразу. Цяпер бачу максімум прыемнае здзіўленне. Гэта ўжо паказчык таго, што ў грамадстве змянілася стаўленне да нацыянальнага. Усё гэта – у тым ліку высілкі працы згуртавання "Бацькаўшчына" з кампаніяй "Будзьма беларусамі!", Саюза беларускіх пісьменнікаў і процьмы іншых арганізацый, якія, не зважаючы на ўсе складанасці апошніх дзесяцігоддзяў, не проста выжылі, а працягваюць дзейнічаць. Паглядзіце, як паслядоўна пачала працаваць з беларускай мовай кампанія "Вэлком" (яны сталі партнёрамі нашага фестывалю беларускамоўнай рэкламы "ADNAK!") ці A-100. А дзеля таго, каб гэта адбылося, трэба было іх шмат часу пераконваць, размаўляць з рознымі людзьмі. Буйныя міжнародныя кампаніі кшталту "Самсунга" ці "Макдональдса" чамусьці лепш разумеюць, што на кожнай асобнай тэрыторыі важна і выгадна мець справы з нацыянальнай адметнасцю. Па ўсёй Беларусі ёсць кропкавыя ініцыятывы. Толькі праз "Кірмашы праектаў" мы з "Будзьмай" за апошнія гады чатыры выцягнулі на публіку ў рэгіёнах каля 100 цікавых праектаў-ідэй, скіраваных на паляпшэнне культурніцкай прасторы таго ці іншага горада. І гэта ўсё робяць мясцовыя актывісты, не мы. Узнікла мноства новых ініцыятыў, якія ўзмацняюць нацыянальную ідэнтычнасць з дапамогай сучасных методык і тэхналогій. І гэта знаходзіць водгук у моладзі. Чаго толькі вартая па-здароваму камерцыйная праца symbal.by! Так што змены ёсць, і гэта, я спадзяюся, толькі пачатак.

Кацярына Карпіцкая, "Наша Ніва"

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ – ПЕРШЫ ЛАЎРЭАТ ПРЭМІІ ІМЯ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Цырымонія ўручэння прэміі імя Наталлі Арсенневай за найлепшую кнігу паэзіі на беларускай мове, сузаснавальнікам якой з'яўляецца МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", упершыню прайшла 6 снежня ў Прэс-клубе ў Мінску. Лаўрэатам прэміі стаў паэт Уладзімір Някляеў за зборнік паэзіі "Толькі вершы".




Прэмія імя славутай беларускай паэткі была заснаваная ў верасні гэтага года МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", Беларускім ПЭН-цэнтрам пры спрыянні Фонду культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонду Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі. Пераможцу вызначала журы: Ірына Багдановіч, Леанід Баршчэўскі, Уладзімір Глазаў, Вальжына Морт, Ціхан Чарнякевіч.

У шорт-ліст увайшлі паэтычныя зборнікі Віктара Жыбуля, Ганны Комар, Насты Кудасавай, Уладзіміра Някляева, Сяргея Прылуцкага, Міхася Скоблы, Андрэя Хадановіча і Юлі Цімафеевай.

Ёсць спадзеў, што прэмія стане традыцыяй і будзе ўручацца штогод.

Уладзіміра Някляева больш парадавала, чым пакінула абыякавым, тое, што ён стаў першым лаўрэатам прэміі імя Наталлі Арсенневай. Ён адзначыў, што гэтая прэмія дае яму надзею, што Някляеў-паэт яшчэ існуе па-за Някляевым-палітыкам.

Пры гэтым Уладзімір Някляеў вельмі шкадаваў, што прэмію не атрымала паэтка Наста Кудасава, і нават аддаў ёй памятную статуэтку.

Ён заўважыў, што лагічна было б адзначыць прэміяй імя Наталлі Арсенневай паэтку. "Я заўсёды з цікавасцю чытаў тое, што называецца жаночай паэзіяй. Дарма паэткі хочуць, каб іх называлі паэтамі: ёсць своеасаблівасць пісьма жаночай натуры, яна істотна адрозная ад манеры пісьма натуры мужчынскай. У нашай паэзіі вельмі моцная эмацыйная скразная лінія жаночай паэзіі – гэта Генію́ш з Арсенневай, працяг таго, што яны рабілі, – цяпер вось тут (на ўручэнні прэміі), тыя вершы, якія чыталі сёння сучасныя паэткі".

Таксама, ужо ў якасці лаўрэата прэміі, паэт прачытаў верш "Рымцелі" з кнігі "Толькі вершы", з раздзела "Турэмная бібліятэка".

"Амерыканка" – адзіная турма ў Беларусі, дзе вельмі добрая бібліятэка. Там было немагчыма спаць на ложку, бо на ім – скручаныя вузламі жалезныя пласціны. Калі я прыйшоў, выявілася, што пад тонкім матрасікам усё ложа было засцеленае кнігамі – іх бралі з бібліятэкі не для таго, каб чытаць, а каб пад бакі падкладаць. Вось тады ў мяне і ўзнікла ідэя "Турэмнай бібліятэкі", – распавёў паэт.

Старшыня ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская падчас свайго выступу распавяла, што для арганізацыі, якая апякуецца беларускай дыяспарай, вельмі істотна, калі прэміі называюцца імёнамі славутых беларусаў – прадстаўнікоў эміграцыі: гэта дэманструе лучнасць беларускай прасторы і адзінства беларускай культуры. Таксама яна адзначыла, што гэта не першы выпадак, калі прэміі называюць у гонар беларусаў замежжа. Ужо існуюць прэміі імя Міколы Ганька, Янкі Юхнаўца, Зоры Кіпель, Аляксандры і Марыі Стагановічаў.

"Прэмія Наталлі Арсенневай вяртае імя слыннай паэткі ў Беларусь. Імя, якое незаслужана забытае і нашай сістэмай адукацыі. Мы вельмі спадзяёмся, што з аднаго боку прэмія будзе матываваць нашых творцаў, з другога – папулярызаваць нашу паэзію. Спадзяёмся, што імя Наталлі Арсенневай вернецца ў падручнікі", – падагульніла Алена Макоўская.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч адзначыў, што асаблівa рады за паэтаў: у апошнія гады з'явіліся прэміі для празаікаў і перакладчыкаў, аўтараў дзіцячай літаратуры. А вось паэты адчувалі сябе крыху абдзеленымі – прэміі за найлепшую кнігу вершаў не існавала. Цяпер несправядлівасць выпраўленая.

Паводле слоў прадстаўніка журы Лявона Баршчэўскага, правальных і слабых кніжак на прэмію прадстаўлена не было, і гэта яшчэ раз сведчыць, што беларуская нацыя – нацыя паэтаў.

Пісьменнік Уладзімір Арлоў, у сваю чаргу, згадаў сваю сустрэчу з Наталляй Арсенневай у Рочэстэры, на той час паэтцы было 92 гады. За накрытым пад чарэшняй сталом Арсеннева распавяла, як першы раз пачула беларускую мову. Сям'я ў дваццатым годзе вярталася з бежанства ў Вільню і па дарозе спынілася пераначаваць у беларускай вёсцы пад Дрысай. Пакой сялянскай хаты, дзе яны спыніліся, быў раздзелены шафай. У адной частцы паклалі гасцей, у другой леглі спаць самі гаспадары, Юрка і Аўдоцця. Юрку ўначы пацягнула на любошчы, а Аўдоцця ўсё цыкала: "Ціха ляжы – госці ў хаце", а пасля не вытрывала: "Палезеш – юшку спушчу". Вось гэтае слова "юшка" заваражыла Наталлю на ўсё жыццё.

Уладзімір Арлоў згадаў яшчэ некалькі цікавых выпадкаў з жыцця паэткі і прачытаў яе верш "Снежань", напісаны ў 1945 годзе.

На прэмію намінаваліся паэтычныя зборнікі, напісаныя на беларускай мове ў 2016 годзе. Паводле старшыні беларускага ПЭН-цэнтра, а таксама каардынатаркі прэміі Таццяны Нядбай, на разгляд журы была дасланая 21 паэтычная кніга з 8 выдавецтваў, прычым не толькі мінскіх: былі прадстаўленыя брэсцкае і беластоцкае выдавецтвы. Лідарам стала выдавецтва "Кнігазбор" – 11 кніг.

Мадэраваў цырымонію паэт Усевалад Сцебурака. Паэты і паэткі, чые зборнікі ўвайшлі ў шортліст прэміі, чыталі ўласныя вершы. Вершы тых, хто не змог трапіць на цырымонію, чыталі са сцэны сябры журы.

Усе фіналісты атрымалі дыпломы, дыск з паэтычнымі песнямі і рамансамі на вершы Наталлі Арсенневай, выдадзеныя Віталём Супрановічам у межах праекта "Беларускі музычны архіў", а таксама кнігу "222 альбомы беларускага року і не толькі" Вітаўта Мартыненкі і Анатоля Мяльгуя.

Напрыканцы цырымоніі адбыўся музычны выступ Змітра Вайцюшкевіча.

**Аляксандра Дварэцкая, "Будзьма беларусамі!"**

## ГАННА ІВАНЭ, ДЫРЭКТАР РЫЖСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ, УШАНАВАНАЯ МЕДАЛЁМ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ



У адпаведнасці з указам Прэзідэнта Беларусі, Ганна Іванэ ўзнагароджаная за асабісты ўклад у развіццё адукацыі на беларускай мове, захаванне культурнай спадчыны беларускага народа ў Латвіі. Яна стаяла ля вытокаў школы, якая цяпер – адзіная навучальная ўстанова ў Латвіі з выкладаннем беларускай мовы і літаратуры.

У школе створаны дзіцячы ансамбль "Вавёрачка", музей, працуюць гурткі. Вучні штогод ездзяць на экскурсіі ў рэгіёны Беларусі.

**Паводле "Голас Радзімы"**

гутарка

# Івонка Сурвілла: "Памяркоўныя, талерантныя людзі зрабіліся ўпартымі індывідуалістамі"

Беларуская Народная Рэспубліка – гэта наш "Востраў Крым", пра які пісаў Васіль Аксёнаў. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, якая з'ехала з Беларусі ў 6-гадовым узросце, распавяла "Большому", як гэта – узначальваць краіну, якой няма ні на воднай мапе.

**– Што такое БНР зараз? Гэта клуб, грамадскае аб'яднанне? Як вы самі ўспрымаеце Раду БНР?**

– Рада Беларускай Народнай Рэспублікі – гэта найстарэйшая дзейная беларуская палітычная і дзяржаўная інстытуцыя, створаная Першым Усебеларускім Кангрэсам у Менску ў 1917-м годзе, і якой Кангрэс перадаў свае паўнамоцтвы. Яна абвясціла незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года, і толькі дзякуючы існаванню Рады БНР была створаная БССР і паўстала ў 1991-м годзе незалежная дзяржава Беларусь. Рада БНР дзейнічае ў выгнанні з 1919 года. Я з'яўляюся яе шостай Старшынёй у выгнанні, пасля Пятра Крэчэўскага, Васіля Захаркі, Мікола Абрамчыка, Вінцэнта Жук-Грышкевіча і Язэпа Сажыча. Уважаю Раду БНР вялікай каштоўнасцю нашага народа. Яе мэтай ёсць бараніць незалежнасць беларускай дзяржавы так доўга, як незалежнасць гэтая не будзе замацаваная назаўсёды*.

**– Колькі вас чалавек, актыўных удзельнікаў?**

– Рада БНР налічвае 80 радных, між якімі выбіраецца Прэзідыум Рады.



**– Чым займаецца Рада БНР? Якія праекты былі рэалізаваныя ў 2017 годзе?**

– Дзейнасць Рады БНР залежыць ад падзей у Беларусі і адносін да Беларусі іншых краін свету, а менавіта нашага ўсходняга суседа. У 2017 годзе на парадку дня былі перад усім вайсковыя манеўры "Захад-2017", бо ўваход расійскага войска ў Беларусь пагражаў існаванню незалежнай дзяржавы Беларусь. Людскія правы, стан беларускай мовы, беларуская культура, школьніцтва, замежная палітыка Беларусі, стан яе эканомікі – усё гэта таксама на парадку дня Рады. Інфармуем свет пра Беларусь, прыпамінаем, што такая дзяржава існуе і што яна не ёсць часткай расійскай імперыі.

**– Чаму ў сучаснай Беларусі пра Раду БНР ніхто не ведае? І чаму ў Менску няма офіса Рады БНР?**

– Пра Раду БНР ведаюць у Беларусі ўсе беларусы, якія цікавяцца доляй свайго народа. Так што казаць, што "ніхто не ведае", не адпавядае праўдзе. Што да офісу БНР у Менску – дык ці чулі вы пра ўрад у выгнанні, які меў бы офіс у сталіцы свае краіны?

**– За якія сродкі існуе Рада?**

– Бюджэт Рады складаецца з ахвяраванняў беларускай дыяспары. Ніякіх грантаў Рада ніколі не прасіла і не прымала ад іншых урадаў.

**– А чым займаецца старшыня Рады? Можаце расказаць пра свой працоўны дзень?**

– Я займаюся ўсім, што звязанае з Беларуссю. Усім цікаўлюся, рэагую на ўсё, што вартае ўвагі. Разам з супрацоўнікамі вырашаем, якія рабіць захады, калі патрэбная нашая інтэрвенцыя. У "Гадавіках" Рады на інтэрнэце, на сайце Рады і на нашай старонцы ў Facebook можаце даведацца больш дакладна пра дзейнасць Рады. Тое, што мы з'яўляемся ў беларускай інфармацыйнай прасторы толькі 25 сакавіка – не адпавядае праўдзе. У інтэрнэце ёсць маса дакументаў Рады.

Ягор Забелін, "Большой"

Цалкам вялікую гутарку чытайце на сайце zbsb.org

навіны

# Барыс Кіт: "Памарозіў ногі на лютаўскай рэвалюцыі, галадаў пасля кастрычніцкай"



Адзін з самых старых беларусаў у свеце, які нарадзіўся ў Санкт-Пецярбургу, жыў у Польшчы, ЗША, Нямеччыне, ніколі не меў беларускага грамадзянства, але да 107 гадоў захаваў родную мову і беларускі патрыятызм, Барыс Кіт на сотую гадавіну бурлівых падзеў 1917 года падзяліўся са Свабодай успамінамі пра некаторыя падзеі XX стагоддзя, сведкам якіх ён быў.

## Пра рэвалюцыю і пераварот

"У Петраградзе 100 гадоў таму былі дзве рэвалюцыі. Адна рэвалюцыя дэмакратычная, якую я бачыў, а другая камуністычная, якую ніхто не бачыў, бо гэта быў пераварот.

У лютым 1917 года я быў маленькі, мне было 7 гадоў. Мама мая неяк кажа: хадзем паглядзім дэманстрацыю. Наша сям'я ў 1917-м у Петраградзе жыла на вуліцы Шамшава, што выходзіла на Вялікі праспект, па якім ішла дэманстрацыя. Там былі ўсе: і камуністы, і некамуністы. Мы выйшлі з мамай на гэты праспект, пабачылі гэтую рэвалюцыю. Але я быў маленькі хлопчык, і ў мяне ногі замерзлі. Я кажу: "Мамачка, пойдзем дахаты, я не магу вытрываць". І мы вярнуліся дахаты.

Я далучыўся да беларускага руху ад малога, спачатку пайшоў у беларускую гімназію, пасля ўніверсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні стаў настаўнікам беларускай гімназіі і яе дырэктарам, сам гадаваў беларускую грамадскасць. За беларускую дзейнасць я быў адзін раз арыштаваны польскімі ўладамі, але каротка, хутка мяне адпусцілі, бо нічога не расказаў на допытах".

## Пра Бранiслава Тарашкевіча

"Я вельмі добра ведаў Браніслава Тарашкевіча. Гэта быў незвычайны чалавек, беларускі патрыёт, слынны грамадскі дзяяч. Ён камуністам не быў, але камуністы яго выкарысталі. Беларусам патрэбныя былі саюзнікі супраць польскай улады, то камуністы ім крыху дапамагалі. Гэта быў іншы час. Камуністы яшчэ не былі такімі, якімі пазней сталі, у той час яны ўдавалі, што быццам бы дапамагалі беларусам. За што польскія ўлады арыштоўвалі Тарашкевіча? Беларусы пачалі вялікі грамадскі рух, быў выбух у народзе, і польскія ўлады, якія лічылі, што беларусаў няма, арыштоўвалі за беларускую дзейнасць.

Пазней Тарашкевіч паехаў у СССР, бо паверыў, што нібыта Саветы дапамагалі беларусам, і там загінуў страшнай смерцю".

## Пра месяц у камеры гестапа

"Падчас Другой сусветнай вайны я неяк ехаў цягніком дахаты. На станцыі Каралеўшчына, дзе была перасадка, прыйшла нямецкая паліцыя і мяне арыштавалі. Пасадзілі ў турму, у якой я сядзеў 30 дзён. І кожную раніцу выклікалі людзей на расстрэл. У камеры было 30 чалавек, з якіх 25 расстрэльвалі штоноч, 5 заставаліся, і сярод іх я. Потым прыганялі новых. Цэлы месяц кожны дзень я чакаў смерці. Мяне выратаваў мой вучань, які працаваў памочнікам нямецкага гебітскамісара. Ён пайшоў да яго і сказаў: "Патрабую адпусціць майго настаўніка". І мяне выпусцілі".

## Пра Амерыку і справу жыцця

"Я ў Амерыцы зрабіў вялікую справу, я даследаваў вадкі вадарод як паліва, на якім амерыканцы паляцелі на Месяц. Гэта было самым важным у маім жыцці, дзякуючы таму, што мне ўдалося пераехаць у Амерыку. Калі б застаўся ў СССР, то ўжо даўно мяне не было б. Маса людзей тады ўцякла, усе мы выратаваліся ад камунізму. Калі я прыехаў у Амерыку, то шмат дапамагаў іншым беларускім уцекачам, я дапамог прыехаць у ЗША тысячы беларусаў. Я заснаваў цэлую беларускую калонію ў горадзе Саўт-Рыверы, быў старшынёй гэтай калоніі, пазней яна пашырылася і разбагацела..."

Валер Каліноўскі, "Радыё Свабода"

Працяг чытайце на сайце zbsb.org

**навіны**

## У КІТАІ АДКРЫЎСЯ ФІЛІЯЛ ГОМЕЛЬСКАГА ДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТУ ІМЯ СКАРЫНЫ

У Шанхайскім прафесійным інстытуце індустрыі, камерцыі і замежных моў адкрыўся філіял Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны – Гомельскі інстытут.

Адпаведныя дакументы 8 снежня падпісалі кіраўнікі кітайскай і беларускай ВНУ. Супраца паміж установамі адукацыі дзвюх краін пачалася ў 2015 годзе. Група студэнтаў шанхайскага інстытута ўжо прайшла навучанне і стажыроўкі ў гомельскім універсітэце па спецыяльнасці “Руская філалогія”.

У прэс-службе ГДУ імя Ф. Скарыны адзначылі, што адкрыццё філіяла ў Кітаі дазволіць рэалізаваць паўнавартасны акадэмічны абмен выкладчыкамі і студэнтамі.

“Кітайскія студэнты два з паловай гады будуць навучацца ў Шанхаі, а пасля, цягам двух ці чатырох гадоў, у Гомлі. Замежныя выпускнікі атрымаюць дыплом бакалаўра або магістра




па спецыяльнасці “руская філалогія”. З адкрыццём філіяла магчымасць выязджаць на навучальныя стажыроўкі ў Шанхайскі прафесійны інстытут індустрыі, камерцыі і замежных моў з’явіцца і ў студэнтаў гомельскага ВНУ”, – паведамілі ў прэс-службе ўніверсітэта.

**ЮВ, “Белсат” паводле БЕЛТА**

## ВЕРШ І ФОТА РАССТРАЛЯНАГА БЕЛАРУСКАГА ПАЭТА ЗНАЙШЛІ Ў ЯПОНІІ



**Паўлюк Шукайла** – беларускі паэт, крытык, празаік. Прафесар. Нарадзіўся ў 1904 годзе ў вёсцы Малая Лапеніца колішняга Ваўкавыскага павета, цяпер Бераставіцкі раён.

На пачатку 1920-х – удзельнік падпольнага рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Перайшоў праз мяжу ў БССР, ад 1925 году кіраваў філіяй “Маладняка” ў Слуцку і рэдагаваў акруговую газету. У 1926-м паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. Арганізаваў у Менску “Беларускую літаратурнамастацкую камуну”, у якую ўваходзілі таксама Апанас Атава, Пятрусь Броўка, Ян Скрыган, Алесь Гародня, Язэп Сукала, Макар Шалай ды іншыя.

У верасні 1930-га арыштаваны ОГПУ СССР у справе “Саюза вызвалення Беларусі”, але справа была спыненая. Працаваў паліткарэктарам у Галоўліце СССР, загадчыкам кафедры метадалогіі мастацтва ў Інстытуце кінематаграфіі, кіраваў Беларускай секцыяй Маскоўскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў, быў рэдактарам маскоўскай газеты “Кіно”, дырэктарам Цэнтральнага тэхнікума тэатральнага мастацтва. Ад 1932 году – віцэ-прэзідэнт Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў у Ленінградзе.

1 лістапада 1938-га арыштаваны і ў красавіку наступнага года асуджаны Вайсковай калегіяй Вярхоўнага суду СССР да найвышэйшай меры пакарання. Пахаваны на могілках “Камунарка” пад Масквой. Пасмяротна рэабілітаваны ў 1959-м.



Доктар філалагічных навук, адзін з заснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, стваральнік Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу Мікола Нікалаеў расказаў пра ўнікальную знаходку, якую ён зрабіў падчас выправы ў Японію.

У музеі Удзяку Акіта ў невялікім гарадку Кураісі ў прэфектуры Ааморы захоўваецца фотаздымак расстралянага беларускага паэта-маладнякоўца Паўлюка Шукайлы.

“Вялікая радасць – знайсці ў далёкай японскай правінцыі аўтограф ураджэнца Бераставіцкага раёна Паўлюка Шукайлы з радкамі ягонага верша, – падзяліўся навінай у Facebook спадар Нікалаеў. – Паэту давялося ўпасці “ніцам на зямлю” нашу, яго расстралялі ў 1938 годзе (паводле іншых звестак – у 1939-м. – РС)”.

Вось урывак вершаванага твору, напісанага аўтарам ад рукі проста пад здымкам.

*...Браткі мае,*
*у мазгох і душы*
*адчынеце венцілятары,*
*вочы палкія накіруйма на жыццё.*
*Зачым ніцам*
*на зямлю падаць —*
*зямлю падпарадкуем*
*пад свой закон!..*

**“Радыё Свабода”**

## Беларускі каляндар памятных дат на студзень 2018 года

2 студзеня – 90 гадоў таму, у 1928-м, нарадзіўся Уладзімір Цвірка (сапр. Вадзім Сурко), дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі, Бельгіі і Нямеччыне, журналіст.

3 студзеня – 110 гадоў таму, у 1908-м, нарадзіўся Мікола Нікан, настаўнік, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Аўстраліі.

3 студзеня – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Мікалай Багародскі, гісторык і краязнавец.

6 студзеня – 75 гадоў таму, у 1943-м, памёр Антон Неманцэвіч, уніяцкі святар, царкоўны дзеяч.

6 студзеня – 55 гадоў таму, у 1963-м, памёр Андрэй Александровіч, пісьменнік.

7 студзеня – Каляды (Раство Хрыстова) паводле юльянскага календара.

8 студзеня – 75 гадоў таму, у 1943-м, памёр Янка Бабровіч, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, публіцыст.

12 студзеня – 130 гадоў таму, у 1888-м, нарадзіўся Дамінік Аніська, ідэолаг і ўдзельнік хрысціянскага руху, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі.

13 студзеня – 425 гадоў таму, у 1593-м, памёр Сымон Будны, мысляр эпохі Адраджэння, асветнік, друкар.

14 студзеня – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзілася Канстанцыя Буйло (па мужу Калечыц), паэтка.

15 студзеня – 15 гадоў таму, у 2003-м, памёр Уладзімір Сіўко, дзеяч нацыянальнага руху, паэт.

21 студзеня – 200 гадоў таму, у 1818-м, нарадзіўся Адам Кіркор, гісторык, этнограф, археолаг, публіцыст, грамадскі дзеяч.

21 студзеня – 80 гадоў таму, у 1938-м, памёр Янка Туміловіч, настаўнік, паэт.

21 студзеня – 40 гадоў таму, у 1978-м, памёр Алесь Салавей (сапр. Альфрэд Радзюк, на эміграцыі Альберт Кадняк), паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Аўстраліі.

22 студзеня – 155 гадоў таму, у 1863-м, пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне.

23 студзеня – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Вацлаў Ластоўскі, грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, мовазнавец, літаратуразнавец, публіцыст, этнограф.

25 студзеня – 80 гадоў таму, у 1938-м, памёр Тамаш Грыб, грамадска-палітычны і культурны дзеяч.

26 студзеня – 100 гадоў таму, у 1918-м, памёр Антон Баранцэвіч, вайсковец, палявы камандзір паўстання 1863–1864 гг. мемуарыст.

29 студзеня – 140 гадоў таму, у 1878-м, нарадзіўся Уладзімір Самойла, публіцыст, літаратурны крытык, філосаф.

31 студзеня – 185 гадоў таму, у 1833-м, нарадзіўся Станіслаў Сільвестровіч, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

31 студзеня – 105 гадоў таму, у 1913-м, памёр Баляслаў Русецкі, мастак.

**Беларусы ў свеце**
No 12 (187), снежань 2017

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацёнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27